ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 53 (1690) | Аўторак, 3 ліпеня 1962 года | Цана 4 кап.









Спыніўся чалавек ля руін, прачытаў на сцяне надпіс: «Адродзім наш родны Мінск! Зробім яго горадам-садам!» — крышку недаверліва паківаў галавой.

— Калі тое будзе? Унукі мае ўбачаць, а мне, напэўна, ужо не давядзецца...

Так было васемнаццаць гадоў назад. Так было ў тыя дні, калі фотакарэспандэнт Ул. Лупейка зрабіў у цэнтры горада вось гэтыя два здымкі, якія вы бачыце ў сённяшнім нумары. А цяпер на месцы руін... Урэшце, паглядзіце самі на здымак уверсе (фота Ул. Крука).

Чалавек, які сумняваўся васемнаццаць гадоў назад, кожны дзень праходзіць па светлых праспектах, скверах, парках. І ніколі не перастане ён здзіўляцца, радавацца і ганарыцца казкай, здзейсненай рукамі людзей.

# З „ЛЕЙКАЙ“ І З БЛАКНОТАМ

**Уладзімір ЛУПЕЙКА,**
**Фотакарэспандэнт БЕЛТА**

МАЕЙ старой партызанскай «лейцы» выпала на долю незвычайная місія. Яна была ў руках першага фотакарэспандэнта, які разам з войскамі Савецкай Арміі ўвайшоў у Мінск на світанні 3-га ліпеня 1944 года.

Як расказаць аб гэтых днях? Пра іх так многа напісана, знята столькі кінакадраў! Тым, хто сам не быў удзельнікам гэтых падзей, усё ўжо здаецца, напэўна, добра вядомым — і як сустракаў Мінск сваіх вызваліцеляў, і якія пачуцці выклікалі ў сэрцы кожнага савецкага чалавека страшэнныя руіны горада. Але для нас, для тых, хто ўвайшоў у Мінск 18 гадоў назад, уражанні не сціраюцца, не старэюць. І цяпер у памяці ўсё яшчэ выплываюць новыя дэталі, сустрэчы. Здаецца, не ўсё яшчэ расказана, не пра ўсё напісана, не ўсе фотакадры тых дзён уважліва разгледжаны людзьмі. А мне гэта здаецца асабліва яшчэ і таму, што многія мае здымкі, зробленыя ў першыя гадзіны вызвалення Мінска, наогул не захаваліся. Я адправіў неапрацаваную плёнку самалётам у Маскву, у фотахроніку ТАСС. І дагэтуль не ведаю, які лёс напаткаў яе ў дарозе. Паветраныя баі над горадам не спыняліся яшчэ даволі доўга.

...Мне хочацца пачаць свой расказ з адной сустрэчы, якая адбылася на подступах да Мінска, недалёка ад Барысава. Гітлераўцы ўзарвалі мост праз Беразіну і на некаторы час затрымалі наступленне нашых войск. Толькі пачалі сапёры ладзіць пераправу, як на іх галовы наляцеў страшэнны шквал агню. Пачалася бамбёжка. Ля пераправы засталося некалькі чалавек, выпадкова там апынуўся і я. Абвешаны фотаапаратамі, у сваім фантастычным партызанскім адзенні, я выклікаў у салдат і афіцэраў даволі падазроныя пачуцці. Мяне на кожным кроку спынялі, правяралі дакументы. Падазроны позірк кінуў на мяне і чалавек, якому я паспрабаваў памагчы цягнуць да пераправы бэльку. Я не вельмі яшчэ разбіраўся ў той час у пагонах Савецкай Арміі і таму не ведаў, хто ён. А ён таксама пацікавіўся маёй асобай і, высветліўшы, што я фотакарэспандэнт ТАСС, хачу трапіць у Мінск разам з часцямі Савецкай Арміі і блукаю тут у пошуках транспарту, жыва адгукнуўся:

— А я магу вам быць чым-небудзь карысным? Я — Чарняхоўскі... Пачакайце, вось толькі ўвойдзем у Барысаў, я дам вам спецыяльную машыну.

Бамбёжка не спынялася ні на хвіліну. Ні на хвіліну не адыходзілі ад пераправы генерал арміі Чарняхоўскі і камандуючы бронетанкавымі войскамі Ротмістраў. А варта было мне выйсці з прыкрыцця і далучыцца да тых, хто пад шквалам агню ставіў пераправу, як тут жа раздаваўся гнеўны вокліч Чарняхоўскага:

— Ідзіце адсюль! Хутка! Я не хачу адказваць за ваша жыццё.

Чарняхоўскі стрымаў сваё слова. Як толькі ўзялі Барысаў і нашы войскі рушылі на Мінск, ён вызеліў санітарную машыну для групы журналістаў. Але яе «акупіравалі» больш увішныя за нас кінарэпарцёры. І мне разам з Васілём Бурносавым, які быў у той час намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена», давялося дабірацца ў Мінск з першымі аўтаматчыкамі, якія «прачасалі» дарогу да горада.

І вось ужо пстрыкае «лейка». За кадрам кадр... Гараць будынкі, кідаюцца на шыю нашым байцам людзі, з'яўляюцца на сценах надпісы: «Мінск узяты! Наперад, на Захад!». Я стараюся ўсюды паспець, каб нічога не прапусціць, каб першыя «гарачыя» паведамленні тэрмінова трапілі ў друк, расказалі людзям аб гэтых гістарычных гадзінах. Каля Дома афіцэраў стаяў першы танк, які ўвайшоў у горад. Ну, хіба ж можна абмінуць такі кадр? Кінуўся здымаць танк на фоне ўцалелага будынка, пстрыкнуў апарат, але атрымаўся... ужо іншы кадр — будынак Дома афіцэраў, ахоплены полымем. Гітлераўцы замініравалі ўсе ўцалелыя будынкі, і ў першыя дні вызвалення Мінска такія «сюрпрызы» здараліся нярэдка.

З многіх незабыўных сустрэч тых дзён у памяці асабліва захавалася адна. Пры 3-й савецкай бальніцы, што знаходзіцца на вуліцы Леніна, жыў стары вартаўнік. Прозвішча яго было, здаецца, Мурашка. Я трапіў да яго выпадкова і якраз у тую хвіліну, калі ён разам з сынам і жонкай адкопваў з зямлі два помнікі Леніна. Адзін невялікі бюст, другі — вялізарны, ён наўрад ці змясціўся б у звычайным пакоі. Я толькі дзіву даваўся, як удалося старому вартаўніку закапаць гэты помнік і зберагчы яго на працягу ўсіх чорных дзён фашысцкай акупацыі. Зрабіў здымак помнікаў, сфатаграфаваў самога Мурашку. Гэтыя здымкі абышлі многія газеты не толькі нашы, савецкія, але і замежныя. Вялікая любоў простага савецкага чалавека да Ільіча была мацнейшай за страх смерці. Я ніколі не забуду гэтага чалавека. І заўсёды, калі здараецца трапляць цяпер на тэрыторыю бальніцы, дзе бачу я зноў гэты помнік, думаецца: чаму б не прыладзіць тут якую-небудзь невялічкую дошчачку, з надпісам, што расказваў бы мінчанам і гасцям, якія наведваюць наш горад, аб гісторыі гэтага помніка, аб гісторыі подзвігу. Тым больш, што і жыццё і смерць вартаўніка Мурашкі заслугоўваюць гэтага. Мне расказвалі, што ён загінуў на пажары, ратуючы адзін з будынкаў бальніцы.

Успамінаеш першыя дні пасля вызвалення Мінска і міжволі думаеш: кожны будынак, кожны камень, кожны помнік можа столькі паведаміць людзям гераічнага і незвычайнага, захаваць для гісторыі імёны, факты, падзеі.

Дзень за днём, крок за крокам, за кадрам кадр. Спачатку аб'ектыў «лейкі» знаходзіў страшэнныя малюнкі разбурэння, смерць, спусташэнне. Сляды фашысцкай акупацыі, адлюстраваныя на фотаздымках, абуджалі гнеў і нянавісць людзей. Мне з фотаапаратам давялося быць у Трасцянцы, у лагеры смерці. Я зняў там па гарачых слядах усё, што пакінулі пасля сябе фашысты, перадаць жа гэта словамі ніколі не змог бы. Фотаздымкі сказалі лепш, чым самае гнеўнае слова. Вы памятаеце іх? Калючы дрот, сродкі вынішчэння людзей, народжаныя фантазіяй цывілізаваных выродкаў і мноства, бясконцае мноства мёртвых цел... Мяне лічылі чалавекам не з палахлівага дзесятка. Але тут упершыню задрыжала мая рука, і фотааб'ектыў не адразу знайшоў патрэбны ракурс.

Усё, што давялося мне здымаць у Мінску потым, можна было б назваць своеасаблівым летапісам горада, зробленым фотаапаратам. Вось ужо на ўцалелых сценах руін з'явіліся надпісы: «Патрабуюцца на работу на хлебазавод...», «Патрабуюцца на работу ў магазінах...», «...на заводы». Першы здымак я зрабіў на заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Рабочыя прыбіраюць смецце, прыстасоўваюць станкі. А вось яшчэ адзін вясёлы здымак. Думаю, што мінчанам прыемна будзе ўспомніць. Пайшоў першы трамвай. Якая гэта была добрая навіна! Трамвай, абляплены людзьмі — нават наверх залезлі дасціпныя хлапчукі — рушыць па Савецкай вуліцы. З тратуараў, як самага высокага госця, вітаюць трамвай мінчане. На прыпынку да вагона падышоў пажылы чалавек і ласкава правёў рукою па свежай фарбе. Прывітаўся з першай ластаўкай мірнага жыцця на вуліцах нашага горада.

Мне як фотакарэспандэнту ТАСС, а потым БЕЛТА выпала на долю здымаць усе больш-менш значныя падзеі ў нашым горадзе. Першы новы будынак і апошнія руіны. Першую ліпу на вуліцах Мінска і разложысты сквер на вуліцы Янкі Купалы. Першую паштовую скрынку — і будынак Галоўнага паштамта. Гісторыя адраджэння горада клалася ў метры, дзесяткі метраў фотаплёнкі. Усё прайшло праз аб'ектыў апарата — і першы цэх аўтамабільнага завода, і першы «МАЗ» з эмблемай зубра. Першы трактар і статысячны юбіляр... Пайшла ў адстаўку мая «лейка». На змену ёй прыйшоў «зоркі», новы, удасканалены фотаапарат з найлепшым аптычным прыстасаваннем. Сціплая «лейка» не здольна была б ахапіць велічныя панарамы нашага жыцця, і я развітаўся з апаратам без асаблівага шкадавання. Няхай адпачне мой стары таварыш, нязменны спадарожнік ваенных гадоў.

Новыя тэмы здымкаў хвалююць нас, фотакарэспандэнтаў, сёння. У подыху васемнаццатага мірнага года нашай рэспублікі — працоўная слава мінскіх камвольшчыкаў і полацкіх нафтабудаўнікоў, шахцёраў Салігорска і хлебаробаў Гомельшчыны. Кожны з новых здымкаў, прысвечаных працоўнаму гераізму нашых людзей, калі-небудзь таксама будзе належаць гісторыі.

# СТРЫМАЦЬ РУКУ ЗАБОЙЦАЎ!

**Заір АЗГУР,**
**народны мастак БССР**

Я прачытаў у газеце паведамленне аб тым, што ў ЗША зроблены 40-ы падземны ядзерны выбух. Дзве ядзерныя ракеты знаходзяцца ў глыбіні акіяна. Апошні выбух быў падземны. Паведамленне надрукавана ва ўсіх газетах свету. І мне думаецца, што наўрад ці знойдзецца хоць бы адзін сумленны чалавек, якога б гэта не абурыла, не выклікала б пачуцця гневу.

Няўжо амерыканскі народ, яго дзеячы культуры і мастацтва не бачаць, куды ўзялі шалёны разгон мілітарысты Пентагона? З кожным новым атамным выбухам у космасе, з кожным ядзерным выпрабаваннем навісаюць чорныя хмары над чалавецтвам, згушчаецца атмасфера падазронасці, недавер'я, вырастаюць паганкі «халоднай вайны», не гаворачы ўжо аб тым, што самі па сабе атамныя выпрабаванні ў космасе пагражаюць нармальнаму жыццю людзей.

Савецкія людзі — рабочыя і калгаснікі, пісьменнікі і мастакі хочуць сябраваць з амерыканскім народам, бачыць прадстаўнікоў гэтай вялікай краіны ў сябе добрымі гасцямі, членамі культурных дэлегацый, турыстамі, а не ворагамі, не забойцамі.

Мне хочацца звярнуцца не толькі да дзеячоў культуры і мастацтва, а хочацца крыкнуць — каб хапіла голасу — на ўвесь свет: Людзі! Спыніце чалавеканенавіснікаў! Затрымайце руку, якая зрабіла замах на свет.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у сваім пасланні старшыні ЦК Кампартыі Японіі С. Насака вельмі вобразна сказаў:

«Я не веру, што чалавецтва стане падобным да Касандры са старажытнай міфалогіі, якая, прадбачачы будучыя няшчасці, у прыватнасці, пагібель Троі, не ў стане была нічога прадпрыняць і не магла пераканаць іншых прыняць меры да іх прадухілення. Мы глыбока пераканаsuccessful ў тым, што ў барацьбе супраць цёмных сіл вайны перамогуць светлыя сілы міру і розуму. Але для гэтага народам свету трэба захоўваць высокую пільнасць перад тварам небяспечных дзеянняў заходніх дзяржаў».

Актам такой высокай пільнасці людзей добрай волі з'явіцца Сусветны кангрэс у Маскве, які пачне сваю работу ў першай дэкадзе ліпеня. З усіх канцоў зямлі прыедуць дэлегаты гэтага кангрэса. На ўсіх мовах, што існуюць на планеце, прагучыць рашучы пратэст дзеянням амерыканскага ўрада, рашучае «не» ядзерным выпрабаванням, рашучае патрабаванне спыніць руку забойцаў!

# „Космас-6“ у палёце

30 чэрвеня 1962 года ў Савецкім Саюзе зроблен паспяховы запуск на арбіту чарговага штучнага спадарожніка Зямлі «Космас-6». На спадарожніку ўстаноўлена навуковая апаратура, прызначаная для працягвання даследаванняў касмічнай прасторы ў адпаведнасці з праграмай, аб'яўленай ТАСС 16 сакавіка гэтага года. Акрамя навуковай апаратуры, на борце спадарожніка «Космас-6» устаноўлена шматканальная радыётэлеметрычная сістэма і радыётэхнічныя прылады для вымярэння траекторыі. На спадарожніку маецца кароткахвалевы перадатчык, які працуе на частаце 90,0233 мегагерц.

Па папярэдніх дадзеных, палёт спадарожніка праходзіць па арбіце, якая мала адрозніваецца ад разліковай. Перыяд абарачэння спадарожніка роўны 90,6 мінуты, вугал нахілу арбіты да плоскасці экватара 49 градусаў, максімальнае аддаленне ад паверхні Зямлі складае 360 кіламетраў, а мінімальнае аддаленне роўна 274 кіламетрам. Радыётэлеметрычная інфармацыя, прынятая з борта спадарожніка, сведчыць аб нармальным функцыяніраванні ўсіх бартавых сістэм. У каардынацыйна-вылічальны цэнтр паступае тэлеметрычная інфармацыя, а таксама дадзеныя аб прыёме радыёсігналаў перадатчыка «Маяк».

## Абмеркаванне кінафільмаў

Днямі адбылося пасяджэнне секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР. На пасяджэнні былі прагледжаны і абмеркаваны дзіцячыя кінафільмы, створаныя Мінскай студыяй навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў: «Марат Казей» — сцэнарый М. Гарулёва, «Вырастай здаровым» — сцэнарый Ю. Багушэвіча, «Раніца жыцця» і «Казка Белавежы» — сцэнарыі М. Калачынскага.

У абмеркаванні кінафільмаў прынялі ўдзел Я. Маўр, А. Якімовіч, Э. Агняцвет, В. Вітка, М. Гарулёў, А. Махнач, А. Мазурава і іншыя.

# БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ!



Чарнавіцкі дзяржаўны ўкраінскі музычна-драматычны тэатр імя Вольгі Кабылянскай, створаны звыш трыццаці год назад, упершыню прыехаў на гастролі ў сталіцу Савецкай Беларусі — горад Мінск.

Свае выступленні наш калектыў пачынае сёння спектаклем «Леся» па п'есе нашага мясцовага драматурга М. Андрыевіч. (Дарэчы, гэтым спектаклем было прадстаўлена драматычнае мастацтва Савецкай Букавіны на апошняй Дэкадзе ўкраінскай літаратуры і мастацтва ў Маскве).

Наш тэатр нарадзіўся ў горадзе Харкаве, і называўся ён спачатку Тэатрам рэвалюцыі. Першы ж пастаўлены ім спектакль — «Справа гонару» вядомага ўкраінскага савецкага драматурга І. Мікітэнкі паказаў творчы калектыў са станоўчага боку, як прадаўжальніка рэалістычных традыцый карыфеяў украінскага тэатра Садоўскага, Саксаганскага, Занькавецкай.

Шырокае прызнанне харкаўскіх гледачоў тэатр атрымаў, паставіўшы такія п'есы, як «Страх» і «Далёкае» А. Афінагенава, «На захадзе бой» Ус. Вішнеўскага, «Майстры часу» І. Качэргі, «Порт-Артур» Л. Нікуліна, усе п'есы І. Мікітэнкі, «Таня» А. Арбузава, «Жалезная брыгада» Я. Гарадскога. Гэтыя спектаклі сведчылі аб яснай і мэтанакіраванай рэпертуарнай лініі, аб сцвярджэнні на сцэне новага героя-сучасніка.

Пасля ўз'яднання ў 1940 годзе Букавіны ў адзіную Украінскую сацыялістычную дзяржаву наш калектыў пераехаў працаваць у горад Чарнавіцы. Ён стаў актыўным прапагандыстам перадавой савецкай культуры ў маладой вобласці Украіны.

У Чарнавіцы тэатр прыехаў з багатым рэпертуарам, у якім налічвалася васемнаццаць спектакляў. Сярод іх ганаровае месца займала глыбока паэтычная казка Лесі Украінкі «Лясная песня», якою трупа і пачала творчую дзейнасць на Букавіне.

Вялікая Айчынная вайна на некаторы час спыніла нашу творчую працу ў маладой украінскай вобласці. Калі ў верасні 1944 года Чарнавіцы былі вызвалены ад гітлераўцаў, тэатр вяртаецца ў свой горад і зноў разгортвае кіпучую дзейнасць. Трупа яго папаўняецца новымі таленавітымі акцёрамі, штодзень удасканальваецца яе майстэрства.

Тэатр паставіў усе п'есы А. Карнейчука, творы Ус. Вішнеўскага, К. Трэнёва, Б. Лаўрэнёва, К. Сіманава, Я. Галана, В. Сабко, А. Арбузава, В. Розава і іншых аўтараў. Класічная драматургія прадстаўлена ў рэпертуары тэатра творамі Горкага і Гогаля, Грыбаедава і Астроўскага, Карпенкі-Карагі і Старыцкага, Шэкспіра і Мальера, Шылера і Гальдоні.

Мы ставілі таксама п'есы пісьменнікаў братніх рэспублік краіны, сярод іх — п'есы Кандрата Крапівы і Андрэя Макаёнка, з латышскай класікі — Яна Райніса, сучаснага кітайскага драматурга Цао Юя, балгарскага — Орліна Васілева, польскага — Ежы Лютоўскага, румынскага — Тэадора Мушатэску і іншых.

У пасляваенныя гады шмат намаганняў тэатр прыкладае да стварэння свайго арыгінальнага рэпертуару. Так быў пастаўлены спектакль «Зямля» па аповесці Вольгі Кабылянскай, імя якой цяпер з гонарам носіць наш тэатр. Папулярнасць гэтага спектакля і высокая ацэнка яго ў гледача з'яўляюцца добрым прызнаннем працы ўсяго калектыву і пастаноўшчыка народнага артыста СССР В. Васількі (ён жа аўтар інсцэніроўкі аповесці).

Многа творчых сіл прыкладаем мы да таго, каб стварыць новую драматургію аб сучасным жыцці Савецкай Букавіны. Тэатр наладзіў творчыя сувязі са здольным пачынаючым аўтарам Зіновіем Пракапенкам. У выніку такога супрацоўніцтва і былі намі пастаўлены яго п'есы «Веснавы паток» і «Яраслава». У «Веснавым патоку» аўтар і тэатр паказалі станаўленне калгаснага ладу на букавінскай зямлі, расказалі пра ўзнікненне новых узаемаадносін паміж сялянамі ў працэсе сацыялістычных пераўтварэнняў. «Яраслава», працягваючы гэтую ж сучасную тэму, адлюстроўвае жыццё букавінскіх рабочых-тэкстыльшчыкаў, іх барацьбу з перажыткамі капіталізму ў свядомасці чалавека.

Трывала замацаваліся ў нашым рэпертуары спектаклі «Лук'ян Кабыліца» Л. Балкавенкі і Г. Мізюна, «Я веру» маладых мясцовых драматургаў М. Акіменкі і М. Андрыевіч, «Днястроўскія кручы» А. Ананьева (па Ю. Федзьковічу).

Мы пакажам мінчанам сучасныя пастаноўкі: «Леся» М. Андрыевіч, «Фараоны» А. Каламійца, «Севастопальскі вальс» Е. Гальперынай і Ю. Аненкава, вядомы твор украінскага драматурга Ул. Сухадольскага «Устым Кармалюк». Мы прывезлі ў Мінск і п'есы ўкраінскай класічнай драматургіі такія, як «Тытарыўна» М. Крапіўніцкага (па Т. Шаўчэнку), «У нядзелю рана зелле капала...» В. Кабылянскай, якія ўпершыню ў гісторыі ўкраінскага тэатра атрымалі жыццё на нашай сцэне. Мінчане ўбачаць таксама музычную драму «Цыганка Аза» М. Старыцкага, трагедыю «Урыель Акоста» нямецкага драматурга К. Гуцкова, п'есу сучаснага італьянскага драматурга А. Нікалаі «Сеньёр Марыо піша камедыю» і п'есу «Тэўе-малочнік» Шолам-Алейхема. У гэтых спектаклях прымуць удзел: народныя артысты УССР П. Міхневіч, В. Сакірка, заслужаныя артысты УССР А. Янушэвіч, В. Зімняя, Ю. Вялічка, Ю. Казакоўскі, П. Сталярэнка-Муратаў, В. Жыхарскі, вядучыя майстры тэатра Л. Луганская К. Цыпа, В. Беспалетава, В. Гал-Савальская, Л. Грынчанка, М. Чаплінская і іншыя.

За трыццаць год творчай работы Чарнавіцкі тэатр гастраліраваў больш чым у сямідзесяці гарадах Савецкага Саюза. З пачуццём вялікай радасці і творчага хвалявання чакае наша трупа сустрэчы з патрабавальным гледачом Савецкай Беларусі.

**Б. БОРЫН,**
**народны артыст УССР, галоўны рэжысёр Чарнавіцкага ўкраінскага музычна-драматычнага тэатра імя В. Кабылянскай.**

